ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 100 (1634) | Аўторак, 19 снежня 1961 года | Цана 4 кап.

**У ГЭТЫМ НУМАРЫ**



# РАЗМОВА АБ ПРЫГАЖОСЦІ

ПРЫГАЖОСЦЬ — у жыццё! Гэтыя цудоўныя словы напоўнены сёння канкрэтным зместам. Савецкі чалавек — будаўнік камунізма — павінен і будзе жыць не толькі ва ўмовах прыгожых грамадскіх адносін і маральных прынцыпаў, але і ў акружэнні зручных, прыгожых рэчаў і прадметаў. Усё, што спадарожнічае чалавеку ў рабоце, грамадскім і асабістым жыцці, павінна прыносіць радасць, асалоду, ствараць атмасферу сапраўднай гармоніі.

І гэта — справа не далёкага будучага. Яна стаіць на парадку дня нашага сённяшняга жыцця.

Прыгажосць — у жыццё! Пад такім дэвізам днямі праходзіла тэарэтычная канферэнцыя, скліканая Мінскім гаркомам КПБ, Саюзам мастакоў БССР і Палацам культуры прафсаюзаў.

Задачы развіцця дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, задавальненне насельніцтва зручнай і прыгожай мэбляй, вопраткай і іншымі неабходнымі прадметамі быту — усё гэта пытанні, даўно пастаўленыя жыццём. На жаль, наша рэспубліка да апошняга часу значна адставала ў вытворчасці сапраўды прыгожых і зручных прадметаў быту.

Удзельнікі канферэнцыі горача абмяркоўвалі не толькі тэарэтычныя пытанні, але і прапаноўвалі шляхі і меры для паляпшэння работы ўсіх арганізацый і прадпрыемстваў, ад якіх залежыць забеспячэнне насельніцтва высокамастацкімі і даступнымі па цане прадметамі. Гэта — задача прадпрыемстваў і ведамстваў мэблевай, шкляной, фарфоравай, абутковай і швейнай прамысловасці. Нарэшце — гэта неадкладная задача і работнікаў мастацтва. Неабходна арганізаваць самую шырокую растлумачальную работу сярод насельніцтва па пытаннях мастацтва, эстэтыкі, прыгажосці быту. Тут непачаты край работы для Саюза мастакоў, гандлёвых арганізацый, кіно, радыё і тэлебачання.

Праграмай КПСС пастаўлена задача вырашыць самую вострую праблему па ўздыму дабрабыту савецкага народа — жыллёвую. Цяпер у асноўным будуюцца малагабарытныя кватэры. Гэтая прычына, а таксама сучасныя эстэтычныя запатрабаванні прымушаюць па-новаму паставіцца і да характару мэблі. Мэбля павінна быць простай, лёгкай, зручнай і прыгожай.

Малагабарытныя кватэры прымушаюць адмовіцца ад вытворчасці гарнітураў, бо кожнаму з іх патрэбен асобны пакой, што выключана пры малагабарытнасці кватэр. У сучасных умовах неабходны выпуск прынцыпова новых камплектаў ці набораў мэблі, дзе б групавалася мэбля розная па функцыях, але аб'яднаная адзінай архітэктурнай задумай.

У рэспубліцы мэбля выпускаецца на 19 прадпрыемствах Саўнаргаса БССР і прыкладна на 130 прадпрыемствах Упраўлення мясцовай прамысловасці і іншых ведамстваў. Па аб'ёму мэблевай прадукцыі Беларусь займае трэцяе месца ў Саюзе пасля РСФСР і Украіны.

У большасці выпадкаў мэбля, якая выпускаецца прадпрыемствамі рэспублікі, уяўляе сабой нешта пераходнае ад даваенных узораў да сучасных. Перабудова работы мэблевай прамысловасці надзвычай зацягнулася, нягледзячы на тое, што ў рэспубліцы ёсць Праектна-канструктарскае бюро, ёсць дзесяткі першакласных мэблевых прадпрыемстваў з выдатнымі кадрамі спецыялістаў.

Справа ў тым, што канструктарскае бюро, якое займаецца праектаваннем новых узораў мэблі, не мае сваёй эксперыментальнай базы. Даўно наспела неабходнасць стварыць буйнае эксперыментальна-канструктарскае бюро, якое абслугоўвала б усю мэблевую прамысловасць рэспублікі, таму што да гэтага часу для прадпрыемстваў мясцовай прамысловасці праектаваннем мэблі ніхто не займаецца.

Канферэнцыі папярэднічала выстаўка, наладжаная ў Палацы культуры прафсаюзаў. Значнае месца на ёй было адведзена мэблі. Увагу і высокую ацэнку наведвальнікаў атрымалі наборы мэблі, якія распрацаваны Інстытутам архітэктуры і будаўніцтва АН БССР, Інстытутам «Мінскпраект» і Праектна-канструктарскім бюро.

Ёсць неблагія ўзоры. Але выпуск іх па-ранейшаму не наладжаны. Прычына — недастатковая ўвага з боку Дзяржплана, Дзяржбуда і Саўнаргаса рэспублікі. У рэспубліцы за гэты год усяго будзе здадзена ў эксплуатацыю 45 тысяч кватэр. А набораў мэблі — па плану — павінна быць выпушчана толькі пяць тысяч! Новыя наборы мэблі, якія былі прадстаўлены на выстаўцы, будуць выпускацца ў будучым годзе. Але ў колькасці 50—100 штук за год! Гэта ж толькі для 10 працэнтаў навасёлаў аднаго Мінска.

Акрамя мэблі, мастацкае аблічча інтэр'ера дапаўняюць і ствараюць асвятляльная арматура, шпалеры, тканіны, дываны, шкляныя вырабы, кераміка і г. д. Да апошняга часу ніхто ў рэспубліцы не займаецца пытаннямі каардынацыі гэтых прадметаў з пункту гледжання іх мастацкай сувязі і адпаведнасці густам і духу часу.

Гаварылася на канферэнцыі і пра вырабы швейнай прамысловасці. Савецкія людзі хочуць апранацца прыгожа. У нашых магазінах даволі багаты выбар прадукцыі швейнай прамысловасці. Але часта пакупнік застаецца незадаволеным, бо многія вырабы не радуюць вока: афарбоўка і фактура тканіны нецікавыя, пашыты сукенка ці касцюм неахайна. Усім надакучылі цёмныя, невыразныя касцюмы і паліто з шавіёту і іншых цёмных цвёрдых тканін, а галоўнае — абрыдлі ўстарэлыя мадэлі.

На выстаўцы і ў час канферэнцыі Мінскі дом мадэлей прадэманстраваў многа ўзораў швейных вырабаў, зробленых з новых матэрыялаў — натуральных і сінтэтычных, пашытых з улікам сённяшніх густаў і запатрабаванняў. Многія з іх — асабліва дзіцячая вопратка, адзенне для школьнікаў старэйшага ўзросту, для маладых дзяўчат — выклікалі дружныя апладысменты. Справа цяпер за швейнымі фабрыкамі і гандлёвымі арганізацыямі.

А наколькі могуць упрыгожыць жыллё шкло і фарфор! У вырабах са шкла і крышталю асабліва важнае значэнне набывае прыгажосць самога матэрыялу, сілуэт рэчы, яе прапорцыі, колернае вырашэнне.

Нашы шклозаводы за апошнія гады дасягнулі значных поспехаў. Дастаткова сказаць, што на ўсесаюзных аглядах шкла ўзоры, распрацаваныя на заводах «Нёман» і імя Дзяржынскага, атрымалі высокую ацэнку. На Брусельскай сусветнай выстаўцы «Нёман» быў удастоены бронзавага медалю.

Здавалася б, што ўсё добра: мастакі і майстры на заводах натхнёна працуюць, ствараюць цудоўныя рэчы. Застаецца толькі асвоіць іх і наладзіць масавую вытворчасць. Але... тут сутыкаюцца дзве абсалютна несумяшчальныя рэчы: прыгажосць і «вал». Справа ў тым, што заводам даецца план не па выпуску той ці іншай колькасці прадукцыі, а па суме ў рублях. Магутнасць заводаў не павялічваецца, а «вал» расце. Так, магутнасць «Нёмана» з 1957 года вырасла на 14 працэнтаў, а «вал» аж у тры разы. Выканаць яго можна толькі пры дапамозе розных дарагіх пазалот. Дзе ж тут думаць пра густ і выпуск простых, прыгожых і танных вырабаў. Нездарма на шклозаводах існуе прыказка: няма страшнейшага звера, чым «вал».

Ёсць і другія перашкоды. Укараненне новых узораў на першым часе зніжае прадукцыйнасць працы, і таму кіраўнікі прадпрыемстваў не вельмі ахвотна ідуць на гэта.

Даўно наспела неабходнасць змяніць сістэму вызначэння планавых заданняў шклозаводам, а таксама сістэму цэн на іх вырабы, перагледзець прэйскуранты.

Яшчэ горш справа з фарфоравымі вырабамі. У Беларусі іх вырабляе толькі адзін завод — Мінскі. На жаль, кіраўніцтва яго таксама баіцца ўсяго новага. Супраць людзей, якія выказвалі жаданне ствараць новыя ўзоры, ставіліся больш чым непрыязна. Мастак на заводзе быў зусім бяспраўным чалавекам. У яго распараджэнні не было ні аднаго рабочага ці майстра. Ён не мог выканаць у матэрыяле ні адной сваёй задумы, не атрымаўшы дазволу і візы галоўнага інжынера, бо новымі відамі прадукцыі на заводзе кіруе інжынер, жывапіснай майстэрняй — таксама інжынер.

І як ні дзіўна, завод лічыцца перадавым: ён выконвае ўсе паказчыкі — па плану, па «валу», па рацыяналізацыі і па сабекошту. Толькі якасць «валавай» прадукцыі нікуды не вартая. Прылаўкі магазінаў і кватэры непатрабавальных людзей завалены няўклюднай і безгустоўнай прадукцыяй, якая шырокім патокам плыве з завода.

Мастак і завод. Цяпер гэтае спалучэнне напаўняецца новым зместам. Апошняе слова на заводзе павінна заставацца за мастаком. Пакуль жа — усё наадварот. І гэта чамусьці не хвалюе Саюз мастакоў, у прыватнасці — яго секцыю дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Мастакі на заводах — лішнія, а то проста непажаданыя людзі. Такое становішча далей нельга цярпець.

Няма патрэбнага нагляду і за шматлікімі мастацкімі майстэрнямі. Многа год існавала рэкламная майстэрня пры трэсце добраўпарадкавання Мінска. Яна выпускала прадукцыю нізкай якасці і рашэннем гарвыканкома была перададзена Мастацкаму фонду БССР. Трэба было чакаць, што якасць рэкламных работ палепшыцца, але ніякага паляпшэння няма.

Шырокае кола пытанняў было абмеркавана на канферэнцыі «Прыгожае — у жыццё». Старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР П. Нікіфараў, галоўны мастак-мадэльер рэспубліканскага Дома мадэлей С. Кошава, галоўны мастак вытворча-тэхнічнага аддзела шкла Упраўлення прамбудматэрыялаў СНГ БССР Г. Ісаевіч, галоўны інжынер Упраўлення лесбумстройпрома Б. Грубін, старшыня Саюза архітэктараў БССР В. Ладыгіна, сакратар гаркома КПБ А. Насілоўскі, мастакі і архітэктары гаварылі аб надзённых патрэбах нашага жыцця. Савецкае — значыць самае лепшае, самае прыгожае. Гэтая думка была ў кожным выступленні.

Удзельнікі канферэнцыі аднадушна вырашылі аб'явіць рашучую барацьбу халтуры, безгустоўнасці, пошласці, змагацца за новыя, прагрэсіўныя, простыя, зручныя і прыгожыя рэчы і прадметы быту, за лепшыя ўзоры вопраткі, абутку, за тое, каб савецкага чалавека ўсюды акружала прыгажосць.

Канферэнцыя — першая сур'ёзная і вялікая размова пра важную і патрэбную справу. Дзіўна толькі, што на ёй не было чутна голасу ні Міністэрства гандлю, ні Дзяржбуда БССР, ні Дзяржплана, ні Упраўлення мясцовай прамысловасці, ні іншых ведамстваў і арганізацый, да якіх было выказана многа прэтэнзій.

Размова, распачатая на канферэнцыі, будзе працягнута. Такія канферэнцыі, трэба спадзявацца, стануць традыцыйнымі, зацікавяць самыя шырокія колы мастакоў, архітэктараў, кіраўнікоў, прадпрыемстваў і ведамстваў, савецкую грамадскасць і памогуць справе эстэтычнага выхавання працоўных.

**М. ГІЛЕВІЧ.**



Ганна Асташонак працуе ўпакоўшчыцай на абутковай фабрыцы імя М. І. Калініна. Але ў яе ёсць яшчэ адна ганаровая прафесія — прапагандыст кнігі, аматар мастацкай літаратуры. У вольны ад работы час Ганна ідзе ў Цэнтральны кніжны магазін Мінска і, падабраўшы вялікі стос кніг, нясе іх на фабрыку. Тут творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Янкі Брыля, Івана Шамякіна...

Кнігі беларускіх пісьменнікаў карыстаюцца вялікім попытам сярод рабочых фабрыкі. У гэтым немалая заслуга Ганны Асташонак. Яна любіць творы на роднай мове, расказвае сяброўкам пра кнігі, якія прачытала.

Ганну Асташонак ніхто не прызначаў на гэтую грамадскую пасаду распаўсюджвальніка. Яна сама па ўласнаму жаданню некалькі год назад прыйшла ў магазін і папрасіла даць ёй кнігі. З таго дня Ганна ўвесь вольны час з кнігамі.

Не адна Асташонак прапагандуе творы беларускіх пісьменнікаў на фабрыцы. Яе сябры — работніцы Зоя Грынцэвіч, Нэла Пруднікава, Марыя Картошкіна, слесар Хведар Калейнік ходзяць па цэхах у час абедзеннага перапынку і прапануюць сваім сябрам новыя творы беларускіх пісьменнікаў. Наш фотакарэспандэнт Ул. Крук сфатаграфаваў Ганну Асташонак (справа) у час гутаркі пра кнігі.

# МЫ ПАТРАБУЕМ!

*Савецкія людзі ніколі не забудуць цяжкіх злачынстваў, якія ўчынілі нямецка-фашысцкія захопнікі на нашай роднай зямлі.*

*У суровыя дні вайны мне давялося быць у радах народных мсціўцаў. Успамінаецца 1943 год. Пад ударамі Савецкай Арміі гітлераўскія зграі каціліся на захад. Наш партызанскі атрад дыслакаваўся ў ваколіцах в. Забалоцце Акцябрскага раёна. Па загаду галоўнага партызанскага штаба атрад быў перакінуты ў адну з заходніх абласцей Беларусі. Заставалася толькі спецгрупа атрада, у склад якой уваходзіў і я.*

*Акцябрскі раён неўзабаве стаў прыфрантавым. Гітлераўцам патрэбна было ачысціць прыфрантавую паласу ад партызан і насельніцтва. І на гэтую крывавую справу была кінута банда эсэсаўцаў. І вось над вёскай Баянава, а пасля над Слабодкай і Баброўічамі ўзвіліся чорныя клубы дыму. З хвіліны на хвіліну пагражала небяспека вёскам Харомцы і Забалоцце. Партызанская разведка даложыла, што карнікі паляць людзей жывымі, а жывёлу і дабро адпраўляюць у Германію. Патрэбна было прыняць неадкладныя меры, каб выратаваць людзей.*

*Наша спецгрупа была разаслана ў навакольныя вёскі, каб дапамагчы людзям схавацца ў лесе. Пачалася напружаная работа. Жыхары пакавалі ў клункі правізію, скарб закопвалі ў зямлю, бралі на павадкі кароў і, пакідаючы свае хаты, ішлі ў лес. Прайшла ноч, а раніцай запалала вёска Харомцы. Каб затрымаць хоць на колькі-небудзь карнікаў, партызаны замініравалі дарогу паміж Харомцамі і Забалоццем.*

*Хутка пачуліся выбухі нашых мін. Гітлераўскія каты, абстраляўшы перад сабой мясцовасць, пайшлі ў абход і ачапілі вёску Забалоцце з усіх бакоў. Ім удалося захапіць звыш 160 мірных грамадзян, якія не паспелі схавацца ў лесе. Гэта былі дзеці, жанчыны, старыя. Усіх іх фашысцкія каты сагналі ў памяшканне школы, забілі дошкамі вокны і дзверы, аблілі сцены бензінам і падпалілі. Доўга чуўся лямант людзей, потым абвалілася столь і стала ціха. Пра гэта нам расказаў адзінаццацігадовы хлопчык Адам Заброцкі. Ён на ўскраіне лесу ўзлез на высокую елку і бачыў усю гэтую страшную трагедыю.*

*На трэці дзень з раніцы мы вяліназіранне за вёскаю з густога алешніку. Нас было восем чалавек. Варожыя аўтамашыны вывозілі нарабаванае дабро. А падвечар, калі спыніўся рух аўтамашын, мы падышлі да папялішча былой школы. З груды попелу і галавешак яшчэ дзе-нідзе павольна віліся ўгару сіняватыя струменьчыкі дыму. Мы адвярнулі абгарэлую бэльку, паднялі некалькі ўцалелых дошак абрушанай столі і адразу ўсе скамянелі ад жаху: пад гэтымі дошкамі ляжалі абгарэлыя дзіцячыя галовы, рукі, ногі... Такое ніколі не забудзеш, колькі будзеш жыць на свеце.*

*Сёння ў бонскім урадзе і яго рэваншысцкай арміі на высокіх кіруючых пасадах знаходзяцца многія з недабітых бандытаў тыпу Глобке, Хойзінгера, Дзірлевангера, якія ў дні другой сусветнай вайны спальвалі і расстрэльвалі ні ў чым не вінаватых людзей. Гэтыя ваенныя злачынцы мараць распаліць пажар тэрмаядзернай вайны, каб зноў знішчаць мільёны людзей. Не пра мір сёння думаюць імперыялісты. Яны думаюць пра тое, каб пайней набіць свае мяшкі золатам на поце і крыві народаў. Іх крыважэрнасць не мае мяжы.*

*Савецкія людзі патрабуюць справядлівай кары ваенным злачынцам былой гітлераўскай Германіі. Мы падтрымліваем Ноту Савецкага ўрада, якая накіравана ўраду ЗША з патрабаваннем выдачы савецкай дзяржаве для аддання пад суд ваеннага злачынцы Адольфа Хойзінгера.*

**Марк СМАГАРОВІЧ**

## За плённую дзейнасць

У сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння і за плённую дзейнасць у галіне мастацтва Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў дырэктара кінастудыі «Беларусьфільм» тав. ДОРСКАГА Іосіфа Львовіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

*Новыя вершы*

## Сарбайскі руднік

**Аляксей ПЫСІН**

Тут самалёты прыпыняюць лёт
І стрэлка компаса свой курс мяняе,
Нібы у стэпе новы полюс лёг,
Нібы паблізу —
Вось зямная.

Гавораць гарнякі: няма чысцей,
Глыбей
Пласта жалезнага, чым гэты,
І можа не адну, а шмат асей
Скаваць з яго для нашае планеты.

Ударыш ломам — і адскочыць лом,
А грымне выбух — коўш руду збірае.
Тут зоры—быццам іскры над катлом
Суровага казахскага Сарбая.

Зімой гудуць марозы. А ўпадзе
Дажджынка летам — чуецца сіпенне.
У ботах ходзяць хлопцы па рудзе,
Цвікамі адчуваюць прыцяжэнне.

Яны знайшлі сваю крутую вось,
Вакол якой выходзяць на арбіты
І кожны плуг,
І кожны паравоз,
І кожны цвік,
Што ў бот
Убіты.

Я палюбіў, Сарбай, тваіх людзей,
Знаёмствам, дружбай буду ганарыцца:
Ступаю па зямлі і я цвярдзей,
Бо змог душою з імі пароднiцца...

Нясу кавалачак жывой руды
Ў дняпроўскі край, дзе бронза баравая;
Хай будзе у мяне на ўсе гады
Нябачная дарожка да Сарбая.

## Мост над Таболам

Ён цвёрда стаў на ўздыбленыя
кручы,
Узняў над безданню хрыбет спіны.
Прымае мост, як працавіты
грузчык,
Цяжэзны груз — ад цаліны.
Гудзе спіна счарнелая
ў натузе,
І гэты гул чуваць на многа вёрст...
Хто за спіной нясе парожні
вузел —
Няхай лепш абміне Табольскі мост.

# НАШ АБАВЯЗАК

За апошнія гады намнога ўзрасла колькасць самадзейных калектываў і іх удзельнікаў. Аднак мастацкі ўзровень іх у большасці выпадкаў пакідае жадаць лепшага. Памагчы ім узняць гэты ўзровень — пачэсная справа работнікаў прафесіянальнага мастацтва. І тут шмат дапаможа самадзейнасці шэфства прафесіянальных калектываў.

Шэфская работа Беларускага народнага ансамбля песні і танца над самадзейнасцю да гэтага часу насіла выпадковы характар. Гэта тлумачыцца спецыфікай нашай работы: калектыў мала бывае на сваёй базе ў Мінску, амаль увесь час знаходзіцца ў раз'ездах па раёнах і абласцях рэспублікі і за яе межамі. Праўда, на гастролях ансамбль таксама дапамагае самадзейнасці. Мастацкі кіраўнік, народны артыст рэспублікі Г. Цітовіч праводзіў кансультацыі і аказваў практычную дапамогу Азершчынскаму народнаму хору, самадзейнасці Целяханскага, Лагішынскага раённых дамоў культуры. Музычны кіраўнік К. Паплаўскі дапамагаў самадзейным артыстам ў калгасе імя Леніна Ляхавіцкага раёна і Гродна. Усюды, дзе б да нас ні звярталіся, мы заўсёды дапамагалі словам і справай. Але гэта, вядома, слабая ўцеха для нашых падшэфных калектываў.

Паводле абавязацельства мы павінны дапамагаць самадзейнасці калгасаў «Зара», «Шлях да камунізма» Клецкага раёна, імя Кірава Слуцкага раёна і інш. Зразумела, нельга чакаць вялікіх вынікаў, калі за адным калектывам, такім, як наш, замацоўваецца пяць-шэсць самадзейных гурткоў. Гэта не дае магчымасці наладзіць работу ні ў адным з іх. Нашы таварышы здолелі пабываць у іх па аднаму разу. А што можна зрабіць за адзін раз? Ды яшчэ пры дрэнных адносінах з боку некаторых раённых аддзелаў культуры. Прывяду такі факт. Хормайстар нашага ансамбля М. Корсак паехаў у вёску Казловічы на Случчыну, каб памагчы мясцоваму хору. Але Слуцкі раённы аддзел культуры нават не паклапаціўся сабраць харавы калектыў. Так наш хормайстар і вярнуўся, не пабачыўшыся з харыстамі.

Магчыма, трэба было б арганізаваць сустрэчу з кіраўнікамі падшэфных калектываў, на якой можна было б узгадніць канкрэтны план шэфскай работы. Прымацоўваць жа падшэфныя калектывы трэба, улічваючы спецыфічныя асаблівасці самога шэфа. Часам, можа, варта прымацаваць іх менш, каб глыбей разгарнуць творчую працу.

На 1962 год за нашым ансамблем плануецца замацаваць самадзейнасць Салігорскага калійнага камбіната, вёсак Грыцэвічы Клецкага раёна і Лявонавічы Нясвіжскага раёна. Ужо ў снежні артысты выедуць у гэтыя калектывы. Папярэдне складзены план уключае ў сябе такія мерапрыемствы, як кансультацыі на месцах, падбор рэпертуару для харавых, танцавальных і аркестравых груп. Намячаецца развучванне песень. У залежнасці ад складу танцавальных груп плануецца пастаноўка лепшых нашых танцавальных нумароў.

У новым годзе мы прыкладзём усе намаганні да таго, каб сельская самадзейнасць, над якой мы будзем шэфстваваць, не крыўдавала на нас.

Любоўнае стаўленне да работы з аматарамі мастацтва не толькі будзе садзейнічаць паспяховай падрыхтоўцы да дэкады самадзейнага мастацтва рэспублікі, што адбудзецца ў наступным годзе, але выкліча яшчэ большы росквіт талентаў.

**Г. ПАНОЎ,**
**артыст Беларускага дзяржаўнага народнага ансамбля песні і танца.**

## ВЫСОКА ЎЗНЯЛІ, ДЫ ВЯРОЎКУ НЕ ТАМ ПРЫВЯЗАЛІ...

«Чым жа вытлумачыць, што за акіянам так энергічна стараюцца абяліць злачынцу, рукі якога ў крыві нявінных людзей? Ларчык адчыняецца проста. Агрэсіўнаму блоку НАТО патрэбен чалавек, які мае «ўсходні вопыт» для падрыхтоўкі агрэсіўных авантур супраць Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін».

(З газет).




Ратуюць вельмі ўжо заўзята
Злачынцу заправілы з НАТО.
Відаць, у іх вялікі попыт
На тых, хто мае «ўсходні вопыт».

Мал. М. ЖЫТНІЦКАГА.

# НА ШЫБЕНІЦУ КАТА!

У жанчыны сівыя скроні. Яна ўжо не маладая. Голас яе дрыжыць, адчуваецца, што яна стрымлівае слёзы. Жанчына гаворыць ціха, але яе чуе ўся зала. У жанчыны добрая памяць. Яна расказвае пра тое, што перажыла. Называе кожны дзень, называе месца. 20 верасня 1941 года бачыла, як забівалі людзей у гета. 12 кастрычніка ў хляве вёскі Палікарава спалілі 98 жанчын і дзяцей. У кастрычніку 1942 года закатавалі аднаго з членаў мінскага падполля, вось тут, побач з Домам афіцэраў, у скверыку. У маі каля Акадэміі навук расстралялі палонных чырвонаармейцаў...

— Ад імя тых, хто аддаў жыццё, я маю права патрабаваць: на шыбеніцу ката Хойзінгера!

Грыміць воплескамі зала. Рабочыя і служачыя, вучні і воіны згодны з пенсіянеркай Х. Пруслінай. Адзін за адным узнімаюцца на трыбуну савецкія людзі, якім давялося быць сведкамі жудасных злачынстваў гітлераўцаў на беларускай зямлі ў гады Айчыннай вайны.

Так праходзіў агульнагарадскі мітынг у Мінскім акруговым Доме афіцэраў у падтрымку Ноты Савецкага ўрада ўраду ЗША аб выдачы ваеннага злачынцы, фашысцкага генерала Хойзінгера. Гэта па яго асабістаму загаду ў Крупках і Талачыне былі знішчаны сотні ні ў чым не вінаватых людзей. З яго ўдзелам распрацоўваліся планы захопу Польшчы, Чэхаславакіі, Югаславіі. Ён адзін з тых, хто складаў план нападу на Савецкі Саюз.

— Я сведка тых злачынстваў, якія рабіліся па загаду Хойзінгера на беларускай зямлі,—гаворыць загадчык рэдакцыі выдавецтва Міністэрства вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР А. Крушынскі.—Гэты фашысцкі выкармыш аддаваў загады аб расстрэлах савецкіх людзей, ён ухваляў душагубкі і канцэнтрацыйныя лагеры, ён быў адзін з тых, хто распрацоўваў план нападу на нашу Радзіму. Па асабістаму загаду Хойзінгера восенню 1942 года ў Крупках былі расстраляны сто заложнікаў — ні ў чым не вінаватых савецкіх людзей. Сярод ахвяр была і мая жонка.

Расточнік Мінскага аўтазавода Л. Місун гаворыць пра тыя поспехі, якія дамогся савецкі народ у будаўніцтве камуністычнага грамадства, пра тое, што імперыялісты рыхтуюць новую сусветную вайну. Цяпер ім патрэбны гітлераўскія генералы з багатым вопытам катаў. Нездарма ж узнагародзіў амерыканскі ўрад фашысцкага ката Хойзінгера вышэйшым ордэнам. Па загаду Хойзінгера учыняліся расправы над мірнымі жыхарамі раённага цэнтра Талачын. Сярод ахвяр былі сваякі Місуна.

Работніца грамадскага харчавання Л. Машкарова расказала пра тое, як па дырэктыве Хойзінгера былі расстраляны мірныя жыхары Талачына і Слаўнага. Тады загінулі маці і сёстры Л. Машкаровай.

На мітынгу выступілі таксама студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Ул. І. Леніна І. Ляскоўскі, адказны сакратар Беларускага камітэта абароны міру А. Ус, пісьменнік Р. Сабаленка. Яны гаварылі пра тыя пакуты і ахвяры, якія знёс беларускі народ, пра зверствы карнікаў Хойзінгера ў гарадах і вёсках Беларусі.

Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю, у якой падтрымліваюць Ноту Савецкага ўрада аб выдачы ваеннага злачынцы Хойзінгера і перадачы яго ў рукі савецкага правасуддзя.



«Саліґорск». Работа маладога скульптара А. Гумілеўскага.

## Абмеркаванне праблем літаратуры 20—30-х гг.

**15 снежня адбыўся пашыраны сход секцыі крытыкі і літаратуразнаўства СП Беларусі з удзелам супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, прадстаўнікоў ВНУ і грамадскасці рэспублікі.**

**На парадку дня сходу — абмен думкамі па праблемах беларускай літаратуры 20—30-х гг. паводле выдадзеных у 1960—61 гг. кніг Н. Перкіна «Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры 20—30 гг.», Ю. Пшыркова «Беларуская савецкая проза (20-я — пачатак 30-х гадоў)», А. Адамовіча «Беларускі раман», М. Смолкіна «Змітрок Бядуля», Р. Бярозкіна «Спадарожніца часу».**

**З дакладам выступіў кандыдат філалагічных навук Якуб Усікаў. У спрэчках прынялі ўдзел Ул. Юрэвіч, М. Пятровіч, А. Лойка, Я. Казека, Н. Перкін, В. Каваленка, І. Мележ, Ю. Пшыркоў, А. Адамовіч, В. Івашын, П. Глебка.**

**Справаздача аб сходзе будзе надрукавана ў адным з бліжэйшых нумароў.**

## Маральны кодэкс будаўніка камунізма

Так называецца выстаўка, якую падрыхтавалі работнікі Дзяржаўнай бібліятэкі імя Ул. І. Леніна. Тут экспануюцца творы Ул. І. Леніна «Вялікі пачын» і «Аб моладзі», матэрыялы XXII з'езда КПСС, брашуры «Камунізм і мараль», «У чым прыгажосць чалавека», «Што такое мужнасць», «Што такое камуністычная мараль» і інш.

Абсталявана таксама выстаўка «Вялікая праграма будаўніцтва камунізма». У ёй ёсць раздзелы «Міжнародны рэвалюцыйны рух рабочага класа», «Нацыянальна-вызваленчы рух», «Сусветная сістэма сацыялізма». На выстаўцы многа брашур, кніг, часопісаў.

# ІМКЛІВЫ БЕГ ЧАСУ

НЕШТА марозец пачаў падціскаць. Нейкая дзіўная сёлетняя зіма. Пачне церушыць сняжок, пакрые дахі, тратуары. А потым пераменіцца вецер, і са стрэх зазвоняць-зацуркочуць капяжы, усё роўна, бы вясной. А пасля густы туман ахутае высокія вежы кранаў, сцены новых карпусоў. На беразе Сожа, як і летам, плешчуцца хвалі. Вёрткі кацярок пашыбаваў уверх, на Ветку.

Уладзімір Бондар любіць у вольную хвіліну прыйсці сюды адзін, сесці на волглую ад сырасці паркавую лаўку і пасядзець. Сюды амаль не далятае водгалас кіпучага жыцця горада. На праспекце імя Леніна мантажнікі заканчваюць работы па падрыхтоўцы тралейбуснай лініі, дзелавіта снуюць машыны, а Уладзімір услухоўваецца ў старожкую цішыню, ловіць гукі, што далятаюць з ракі, і думае.

Аб чым думае гэты чалавек? Падсумоўвае зробленае? Перабірае ў памяці падзеі апошніх дзён? Ацэньвае сваю работу расточніка і брыгады, у якой працуе?

— Вялікая і ганаровая адказнасць кладзецца на чалавека, — разважае Бондар. — І адказнасць гэтая ўзрастае яшчэ больш цяпер, калі прынята новая Праграма нашай партыі.

Што ж, іхняя брыгада папрацавала выдатна. Усе члены брыгады—сем чалавек — ударнікі камуністычнай працы. Уладзімір уяўляе падцягнутую прыгожую постаць Уладзіміра Забеліна і ўсміхаецца. Забелін заўсёды сустракаў у цэху Бондара вясёлым пытаннем:

— Паспрачаемся, цёзка?

Стрыманы Бондар, ведаючы жартаўлівы характар сябра, пытаецца:

— Аб чым жа нам спрачацца? Здаецца, ніхто з хлопцаў брыгады не настроены так агрэсіўна, як ты, Валодзя...

— З работай паспрачаемся. Дакажам, на што мы здатныя, — і звонкі смех Забеліна гучыць у пралёце цэха.

— Гэта можна, — усміхаецца Бондар. — Ды хваліцца нам, браце, як кажуць, зусім і не да твару.

— А навошта хваліцца? — здзіўляецца Забелін. — Сціпласць упрыгожвае чалавека.

Работа расточніка патрабуе выключнай дакладнасці. Паспрабуй трохі не так пастаў дэталь або зрабі на які мікрон меншы запуск — і брак. Ды ў іхняй брыгадзе гэтага даўно не здараецца («бог мілаваў», — жартуе Леанід Цімахасаў). Ва ўсіх — трэці разрад, а ў Забеліна — чацвёрты. Той, хто працуе на станках, ведае, што гэта значыць...

Неяк Леанід Цімахасаў, які раней працаваў токарам, а расточнікам стаў пазней, прыйшоў у цэх прыкметна ўзрушаны.

— Сябры, — сказаў ён. — Чытаў я ў газеце аб школах перадавога вопыту. Што вы на гэта скажаце?

— А тое скажам, што ў нашай брыгадзе даўно трэба адкрыць новую школу, — выказаў думку Бондар.

Неўзабаве школу адкрылі. І справы адразу пайшлі ўгору. Ды хіба адна такая школа магла задаволіць іх, людзей, якіх называлі разведчыкамі будучыні? Вядома, не. Пры заводзе працавала пачатковая эканамічная школа, і чатыры члены брыгады сталі займацца і ў ёй. Тады ж да дня адкрыцця XXII з'езда Камуністычнай партыі брыгада абавязалася па пачыну масквічоў даваць толькі выдатную якасць работы. І што ж? Справіліся! Не ладзілася спачатку работа ў Самуіла Бардона. Ды на дапамогу сябру прыйшоў Леанід Цімахасаў.

— Ты, хлопча, паменш хвалюйся,—ушчуваў ён сябра.—Ясна ж сказана: цябе ў адстаючых не пакінем.

Нямала прыйшлося займацца з Самуілам, падказваць, вучыць. І праз некаторы час справы ў Бардона пайшлі на лад.

— Атрымліваецца! — змахнуўшы з ілба пот, аднойчы радасна закрычаў ён, абводзячы сяброў шчаслівымі вачыма.

А яны стаялі побач — і Уладзімір Бондар, і Леанід Цімахасаў, і Іван Матузаў—шчыра ўсміхаліся сябру. Добра гэта адчуваць, што ты дапамог сябру, што таварыш крышачку як бы падрос, што ён адчувае поруч твой локаць!

Нядаўна Самуіл ажаніўся. Звонка грукалі яны абцасамі на яго вяселлі — аж падлога ў новай кватэры гула, бы той бубен. А што ж? Няхай яшчэ адна харошая, моцная сям'я будзе. Хлопца прынялі ў партыю. Ён выдатна асвоіў работу, якая патрабуе немалой кемлівасці, вучыцца на пятым курсе вячэрняга тэхнікума.

— Пачакай, ты ў нас сапраўдным прафесарам станеш, — жартуе з Самуіла Цімахасаў.

Цудоўныя людзі ў іхняй брыгадзе. Вунь Уладзімір Шкабарын. Прыйшоў ён на завод гады тры назад. У арміі быў афіцэрам. А як дэмабілізаваўся, вырашыў стаць расточнікам. Шкабарын вучыўся ў Івана Халайкова.

Халайкоў дапамог Уладзіміру авалодаць прафесіяй. Не лічыўся ён з часам, і няўдачы Шкабарына перажываў, як свае ўласныя. Затое Уладзімір стараўся з усіх сіл. І дагнаў сяброў. Цяпер брыгада выконвае заданне на 140 працэнтаў. Гадавы план быў выканан у верасні. І з таго часу яны працуюць у лік 1962 года.

Аднойчы Бондар выказаў думку, што няёмка неяк, каб кожны хаваў сабе свой інструмент. Выходзіць — быццам не давяраюць хлопцы адзін другому.

— А мы будзем мець інструмент адзін на ўсіх, — сказаў Уладзімір Шкабарын. — І зручна і добра.

Так і зрабілі. І — нічога: атрымалася цудоўна. Цяпер кожны рыхтуе сябру рабочае месца, дэталі. Часам здаралася так, што пазніліся свідравальшчыкі, і хлопцы рашылі абысціся без іх. Дэталі сталі свідраваць самі. А цяпер члены брыгады выношваюць думку — абысціся і без АТК. Сапраўды, навошта АТК, калі работа кожнага члена брыгады выдатная?

І яшчэ. Цяпер станок зменшчыку перадаецца на хаду — эканоміцца час. А як здараецца якое парушэнне дысцыпліны — адразу віноўніка на суд брыгады. Ды, па праўдзе кажучы, даўно не было тых парушэнняў.

А вечарам усе члены брыгады павязваюць на рукавы чырвоныя істужкі дружыннікаў. Няхай толькі пападзецца ім, гэтым дружным хлопцам, які хуліган — не рад будзе.

А бывае здараюцца і... спрэчкі. Так, так, не трэба здзіўляцца. Спрачаюцца, безумоўна, часцей за ўсё аб літаратуры. Прачытаў, напрыклад, нядаўна ў часопісе «Полымя» раман Івана Мележа «Людзі на балоце» і —адразу да сяброў:

— Цудоўная рэч, браткі! Так раман напісан, што я ледзь не да раніцы над апошнім нумарам прасядзеў. І мова ж — цудоўная. Такая густая, каларытная, народная.

А Івану Халайкову вось і не спадабалася мова. «Ледзь язык не зламаў, пакуль прывык гэтае «кеб» чытаць», — скардзіўся праз колькі дзён ён сябрам. Іван нават збіраўся і аўтару напісаць, каб не дужа перасыпаў мову герояў твора мясцовымі слоўцамі.

А то заспрачаюцца пра тэатр, тым больш, што амаль на кожную новую пастаноўку ўсёй брыгадай «калектыўныя паходы» робяць.

А час ляціць, бы тая птушка імклівая; і, як спяваецца ў песні, «няма калі нам азірнуцца назад». Цяпер члены брыгады адмовіліся ад наладчыкаў. Па пачыну вядомага стругальшчыка з Мінска Патаповіча працавалі па прынцыпу: «Навучыся сам — навучы таварыша». Яны навучылі пяць чалавек прафесіі стругальшчыка.

А зараз падтрымалі пачын уральцаў — працягнуць працоўную вахту ў гонар XXII з'езда Камуністычнай партыі да канца года.

Імклівы ён, бег часу. Больш імклівы, чым рачныя хвалі, на якія задуменна глядзіць Уладзімір Бондар.

**М. ДАНІЛЕНКА,**
**М. ВАСІЛЯВІЦКІ.**
**Гомельскі рачны порт.**

## Падзеі. Факты. Навіны

**□ Нядаўна ў Дзяржынскім раённым Доме культуры адбыўся вечар інтэлігенцыі раёна. Перад настаўнікамі, спецыялістамі сельскай гаспадаркі, работнікамі культасветустаноў выступіў дэлегат XXII з'езда КПСС, народны артыст СССР Б. Платонаў. Ён падрабязна расказаў аб рабоце гістарычнага з'езда, адказаў на шматлікія пытанні прысутных.**

**Ул. КУКСО.**

**□ Больш 800 экземпляраў кніг мастацкай і тэхнічнай літаратуры адправіла Маладзечанская бібліятэка імя Крупскай навасёлам Цаліннага краю. Рыхтуецца яшчэ адна пасылка, якую маладзечанцы ўкамплектавалі са сваіх асабістых бібліятэк.**

**Ул. МАНГІНОВІЧ.**

**□ Днямі ў цэнтры вёскі Паршавічы Пінскага раёна на новым будынку з'явілася шыльда «Дом культуры калгаса «Запаветы Леніна». У Доме культуры—глядзельная зала на 300 месц, пакой для работы гурткоў, бібліятэка з чытальняй. Пачала працаваць стацыянарная кінаўстаноўка.**

**Ф. ГЛІНСКІ.**

**□ Работнікі Магілёўскай абласной бібліятэкі імя Ул. І. Леніна праводзяць вялікую работу па прапагандзе матэрыялаў XXII з'езда КПСС. Тут з густам афармлены стэнды: «Маральны кодэкс будаўніка камунізма», «Усё для чалавека, у імя чалавека», «Даў слова — стрымай яго!», «За работу, таварышы!».**

**Наведвальнікі чытальнай залы шмат цікавага знаходзяць на кніжных выстаўках «Вялікая праграма будаўніцтва камунізма», «Усё для чалавека», «Мы будзем жыць пры камунізме» і інш. Улічваючы пажаданні чытачоў, бібліятэкары рыхтуюць тэматычны вечар «Маральны кодэкс будаўніка камунізма».**

**В. АРЦЕМ'ЕЎ.**

**□ Днямі ў Акадэміі навук БССР адбылося пасяджэнне юбілейнай камісіі па правядзенню 80-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Камісія намеціла рад мерапрыемстваў, сярод якіх урачыстыя вечары, купалаўскія чытанні, экскурсіі па мясцінах, дзе жыў народны пясняр.**

**□ Студэнты Мінскага мастацкага вучылішча запрасілі да сябе ў госці народнага мастака БССР І. Ахрэмчыка. Паміж студэнтамі і старэйшым майстрам адбылася сяброўская размова. І. Ахрэмчык расказаў пра тое, як працуе над карцінамі, пра свае творчыя планы.**

# НЕ ТОЛЬКІ Ў ШКОЛЕ

Вера Паўлаўна рыхтавалася да перасялення ў новую кватэру. Клапатлівая гаспадыня хацела як лепш абставіць пакоі. Апошнія дні яна разам з мужам абхадзіла мэблевыя магазіны, зазірала ва ўнівермаг, у магазіны гаспадарчых тавараў і кожны раз штонебудзь новае прыносіла дадому. Невялікі пакой у бараку, дзе часова жылі Літвінавы, паступова ператварыўся ў склад рэчаў хатняга ўжытку.

Вася — сын Веры Паўлаўны — кожны раз уважліва разглядаў новыя пакупкі маці. Уся ў клопатах аб новай кватэры, Вера Паўлаўна перастала сачыць за старым барачным жыллём, і Вася, сам не заўважаючы таго, стаў тут поўным гаспадаром. Цяпер з раніцы да вечара дзеці спяшаліся да Васі, неслі да яго дэталі старых радыёпрыёмнікаў, гадзіннікаў і іншыя «прыборы». Хлопчыкі штосьці старанна майстравалі, таямніча раіліся. Нарэшце пасярэдзіне пакоя з'явілася скрынка, старанна абабітая кавалкамі да бляску начышчанай бляхі з металічнымі палачкамі па баках — «антэнамі». Дзеці змайстравалі «касмічны карабель».

Вечарам, калі сябры пайшлі дадому, Вася заняў сваё месца ў «касмічным караблі». Дзіця ззяла ад шчасця.

Раднымі і ўзрушанымі вярталіся ў гэты вечар і бацькі. Вера Паўлаўна, нічога не заўважаючы, ад парога кінулася цалаваць Васю і, па-дзіцячаму радуючыся, паказала, як нешта незвычайнае, ключ ад новай кватэры. Бацька адразу ж па-мужчынску агледзеў «карабель», аўтарытэтна ацаніў работу і задуму хлопчыкаў. Не паспеў Вася загаварыць пра тое, што ў космасе цёмна, як ён здагадаўся і, не задумваючыся, дастаў кішэнёвы ліхтар, па-бацькоўску ўсміхаючыся, уручыў яго «касманаўту». Усё ішло як нельга лепш. Кладучы Васю спаць, маці кінула вокам на скрынку, пагрозна паківала пальцам і сказала:

— Скрынку ў цёці Олі ўкралі? Дасць яна вам...

Вася нясмела зірнуў на бацьку.

— Мы ёй лепшую купім, — адказаў той, па-сяброўску падміргваючы сыну. — Падумаеш, скрынка!

На другі дзень раніцаю рэчы былі перавезены на новую кватэру.

— Па цябе я прыеду пад вечар, — ад'язджаючы, сказала маці Васю.

Гэты дзень быў самы шчаслівы ў жыцці хлопчыка. Зноў прыбеглі сябры, і работа закіпела. У той самы момант, калі работа падыходзіла к канцу, у пакой уляцела Вера Паўлаўна.

— Збірайся! — хапаючы і выносячы рэчы, што яшчэ засталіся, на машыну, скамандавала яна Васю.

Хлопчык не спяшаючыся пачаў складаць сваю маёмасць у загадзя падрыхтаваную дзецьмі скрынку. Дзеці памагалі яму. Ускочыўшы зноў у пакой, маці раптам злосна накінулася на сына.

— Ды ты што! — закрычала яна. — Ніякага ламачча... І так стукнула нагою па скрынцы, што з яе з грукатам і бразгатам высыпаліся «механізмы». Затым раз'юшана схапіла «карабель» і грымнула яго аб падлогу.

Ашаломлены хлопчык стаяў не варушачыся. Дзеці спалохаліся, пахаваліся па кутках. Вася не паспеў нават заплакаць. Маці адным махам выцягнула яго за ручку з пакою.

Вялікае гора, нечаканая крыўда апанавалі малога.

Пра гэты выпадак мне расказалі нядаўна. Я не здзівіўся. На жаль, прыкладаў неапраўдана грубага ўтаржэння дарослых у жыццё дзяцей яшчэ нямала. Па дрэннай традыцыі ў выхаванні працягвае займаць нейкае месца ўлада старэйшых з вокрыкамі, штуршкамі, з патураннем, беспакаранасцю і нават абыякавасцю. Гэта адзін з самых страшэнных перажыткаў мінулага. З ім трэба рашуча змагацца. Калі гаворка ідзе пра выхаванне, дык тут больш чым дзе б там ні было дарэчы сказаць: што пасееш, тое і пажнеш.

Паспяховае вырашэнне задач, вызначаных Праграмай КПСС у галіне выхавання новага чалавека, абавязвае нас своечасова і цалкам асэнсаваць і выкарыстаць усе педагагічныя сілы і магчымасці, усе ўмовы, якія ёсць і будуць ствараўца і складвацца па меры будаўніцтва камунізма.

Перш за ўсё неабходна на больш высокім узроўні, па дзяржаўнаму арганізаваць, актывізаваць і накіраваць педагагічную дзейнасць працоўных калектываў, сям'і і ўсяго дарослага насельніцтва. **Педагогіка не можа больш туліцца толькі ў сценах школы.** Яна павінна з небывалай смеласцю выйсці на прасторы вялікага жыцця, бо яна ў канчатковым выніку і дае нам сілу рашаючага ўплыву на дзяцей, яна павінна быць з усімі сваімі правамі ўсюды—у школе і сям'і, на заводзе і ў полі, у трамваі і на вуліцы і г. д. «Я настайваю на тым,—гаварыў А. С. Макаранка,—што пытанні выхавання, методыку выхавання нельга абмяжоўваць пытаннямі выкладання, тым больш нельга, што выхаваўчы працэс адбываецца не толькі ў класе, а літаральна на кожным квадратным метры нашай зямлі». Цяпер мы ўступаем у паласу такога часу, калі не толькі ў школе, не толькі ў сям'і, а сапраўды на кожным квадратным метры нашай зямлі павінен адбывацца патрэбны нам выхаваўчы працэс.

Нярэдка даводзіцца чуць скаргі бацькоў на тое, што двор, вуліца сапсавалі дзіця. На жаль, дзеці могуць яшчэ іншы раз дазваляць сабе на вуліцы, у грамадскіх і іншых месцах тое, ад чаго яны ўстрымліваюцца ў школе, у сям'і, пры сустрэчы настаўнікаў, аўтарытэтных для іх знаёмых. Чым гэта растлумачыць? Што наша вуліца, скажам, не мае сілы папярэдзіць дрэнныя паводзіны дзяцей або своечасова спыніць іх? Не, па нашых вуліцах ходзяць працавітыя савецкія людзі, многія з іх з вялікім жыццёвым вопытам, з вялікімі ведамі і, калі яны іншы раз робяць выгляд, што не бачаць дрэнных паводзін дзяцей або абмяжоўваюцца ціхім абурэннем, дык толькі таму, што лічаць: выхаваннем павінен займацца хтосьці іншы — бацька, маці, школа. Час рашуча пакончыць з гэтым старым, кансерватыўным, шкодным поглядам на справу выхавання падрастаючага пакалення. Выхаванне дзяцей — гэта ўсенародная справа. Супраць гэтага наўрад ці будзе хто пярэчыць. Але паспяховая арганізацыя ўсенароднага выхавання дзяцей немагчыма без адпаведнай тэарэтычнай падрыхтоўкі насельніцтва, без ведання асноў савецкай педагогікі, асноў марксісцка-ленінскай тэорыі камуністычнага выхавання.

Прапаганда педагагічных ведаў, якую праводзяць школа, Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў і іншыя арганізацыі, не дае сістэмы самых неабходных ведаў, датычыць галоўным чынам бацькоў, не адпавядае тым патрабаванням, якія ставіць Праграма КПСС, само жыццё. Наша педагагічная навука — перадавая ў свеце навука, яна разглядае праблему выхавання як працэс арганізацыі жыцця дзіцяці. Так ці інакш, прама ці ўскосна, а ў арганізацыі жыцця дзяцей прымаюць удзел усе дарослыя людзі: і бацькі, і кандуктар трамвая, і настаўнік, і рабочы—усе. Цяпер жа, калі школа звязвае навучанне з жыццём, з прадукцыйнай працай, дарослае насельніцтва заўсёды будзе трывала звязана з дзіцячым светам. Ужо цяпер да педагагічнай работы непасрэдна прыцягваюцца тысячы рабочых, інжынераў, тэхнікаў, калгаснікаў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі. Нярэдка гэтыя людзі з энтузіязмам бяруцца за справу, але адсутнасць педагагічных ведаў скоўвае іх дзеянні, абмяжоўвае ініцыятыву.

Нам, настаўнікам, добра вядома, што няведанне асноў камуністычнага выхавання і савецкай педагогікі з'яўляецца галоўнай прычынай цэлага раду непаразуменняў у сямейным выхаванні, прычынай няправільнага, а часам нават вельмі грубага падыходу да гэтай складанай справы. Так, напрыклад, адны бацькі спрабуюць дамагчыся патрэбных вынікаў толькі метадам заахвочвання, даходзячы часам да яўнага патурання шкодным звычкам. У сям'і рабочага Р. жвавы шасцікласнік зусім адбіўся, як кажуць, ад рук, лодарнічаў і абяцаў бацькам вучыцца толькі пры адной умове, калі яны купяць яму гадзіннік. Бездапаможныя маці і бацька з радасцю прынялі гэтую ўмову. У некаторых сем'ях дамагаюцца «строгай» дысцыпліны і неабдумана часам прыгнятаюць асобу дзіцяці. У выніку парушаецца здаровая дружба дзяцей з дарослымі. Атрымаўшы двойку, вучань Л. слёзна просіць настаўніка не гаварыць пра гэта бацькам. Ён страшэнна баіцца пакарання. Падобных прыкладаў можна прывесці нямала. Яны калечаць душу дзіцяці, ускладняюць педагагічную работу і школы і іншых сем'яў.

Паспяховае выхаванне дзяцей у наш час немагчыма без сур'ёзнай падрыхтоўкі выхавацеля. Нярэдка нават вопытнаму настаўніку, а то і ўсяму педагагічнаму калектыву даводзіцца з вялікай цяжкасцю вырашаць тыя ці іншыя пытанні фарміравання асобы дзіцяці. Гэта добра ведаюць усе і ўсё ж, трэба сказаць праўду: у нас яшчэ, на вялікі жаль, нямала выпадкаў спрошчанага падыходу да справы выхавання.

Для выканання самых нескладаных працоўных аперацый чалавека клапатліва рыхтуюць на спецыяльных курсах, абавязваюць прайсці тэхнічны мінімум і толькі пасля гэтага дапускаюць да працы. А вось у ЗАГС'ах пры рэгістрацыі шлюбу ніхто не спытае маладажонаў—будучых бацькоў, ці падрыхтаваны яны да таго, каб правільна выхоўваць сваіх дзяцей. А вельмі важна, хто і як пачынае выхаванне дзіцяці. «Якім будзе чалавек, галоўным чынам залежыць ад таго, якім вы яго зробіце да пятага года яго жыцця», — пісаў наш слаўны педагог А. С. Макаранка. Гаворка ідзе, вядома, не аб тым, каб ЗАГС'ы пачалі экзаменаваць маладых. Не! Мы павінны своечасова ўзбройваць моладзь неабходнымі педагагічнымі ведамі. Адсутнасць гэтых ведаў у бацькоў прыводзіць да таго, што школе даводзіцца большасць дзяцей не выхоўваць, а **перавыхоўваць.** Гэта цяжкая справа забірае шмат сілы і часу і не заўсёды дае станоўчыя вынікі. Можна смела сказаць, што цяперашнія дармаеды, стылягі ў большасці і ёсць тыя самыя людзі, з перавыхаваннем якіх школа не справілася ў свой час.

Ці ёсць у нас магчымасць узброіць усё насельніцтва веданнем асноў педагагічнай навукі? Такая магчымасць ёсць, і не выкарыстаць яе—значыць нанесці шкоду камуністычнаму будаўніцтву.

У Праграме КПСС сказана, што ў бліжэйшае дзесяцігоддзе ў краіне будзе ажыццёўлена абавязковая сярэдняя агульная і палітэхнічная адзінаццацігадовая адукацыя для ўсіх дзяцей школьнага ўзросту; кожны год будзе значна павялічвацца колькасць навучэнцаў у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Калі цяпер у планы ўсіх вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў увесці курс асноў марксісцка-ленінскай тэорыі камуністычнага выхавання, то ў бліжэйшыя гады гэта праблема будзе вырашана, і мы ў агульным руху нашага грамадства да камунізма здолеем дасягнуць узроўню такой арганізацыі выхавання дзяцей, якой яна павінна быць на самай высокай стадыі развіцця чалавецтва. Зараз ужо не цяжка зразумець, што педагагічная падрыхтоўка ўсяго насельніцтва вельмі неабходна для паспяховага будаўніцтва камуністычнага грамадства.

Курс асноў марксісцка-ленінскай тэорыі камуністычнага выхавання варта было б увесці ў планы ўсіх сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў, бо гэта адна з неабходных прадпасылак стварэння камуністычнага грамадства. Гэтага патрабуюць цяпер інтарэсы выхавання дзяцей за межамі школы, на кожным квадратным метры нашай зямлі. Тэорыя камуністычнага выхавання—арганічная частка марксісцка-ленінскага светапогляду. Яна ўзніме агульны ўзровень ідэйнай узброенасці навучэнцаў сярэдніх і вышэйшых школ, пашырыць іх кругагляд і непасрэдна далучыць іх да ўсталявання новых камуністычных адносін. А гэта цяпер — галоўнае.

**С. ЦЯРЭШЧАНКА,**
**настаўнік Ратамскай сярэдняй школы Мінскага раёна.**



**Пасля службы ў Савецкай Арміі Яўген Шыбкоў вярнуўся дадому, у край блакітных азёр. Нядоўга пражыў ён у Мядзелі. Вялікая любоў да музыкі прывяла яго ў Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча. Зараз Яўген Шыбкоў займаецца на 4 курсе па класу баяна.**

**У вучылішчы ён пачаў спрабаваць свае сілы ў кампазіцыі. Яўген напісаў шэраг песень, якія з поспехам выконваюць удзельнікі мастацкай самадзейнасці вучылішча. Сярод іх песні «На рацэ», «Калыханка», «Васількі» і інш.**

**На здымку—Яўген Шыбкоў (злева) знаёміць педагога М. Баяровіча са сваёй новай песняй.**

## На пачатку дарогі



Мікола Капыловіч нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Астражанка Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў сярэднюю школу. Потым працаваў інструктарам Лельчыцкага райкома камсамола.

Зараз займаецца на чацвёртым курсе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Ул. І. Леніна.

Эцюды, якія мы публікуем, — дэбют маладога празаіка.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ**

## Сыкаюць косы

Напёкшы за дзень зямлю, сонца спадае за лес. Дыбіцца апырсканая расою трава. Зямля на ўсе свае магутныя грудзі дыхае водарам кветак і скошаных траў. Дзяцельнік падымае з зямлі абвялае ад спякоты лісце-вушы, горне іх да сцяблоў, натапырвае. Мабыць, прыслухоўваецца да свісту кос, што чуваць над поплавам. У гэты надвячорак мы надта разахвоціліся касіць! Косім вольна, шырока, на ўсё плячо. Сыкаюць косы, мятуць густы, як шчотка, дзяцельнік у тоўстыя валкі. Мяккі ветрык дыхае ў разагрэтыя грудзі, казытліва гуляе за пазухай. Над поплавам нясецца чароўная музыка кос.

— С-с-іў! С-с-іў! — тоненька, як змяя, свішча вузенькая, злізаная доўгімі гадамі касьбы, каса дзеда Рыгора.

— Ж-ж-ах! Ж-ж-ах! — голіць поплаў каса-брытва Сымона.

— Ш-ш-ш! Ш-ш-ш! — шыпіць і стрыжэ мурог мая.

Кожная каса, як чалавек, мае свой голас.

Крэкчуць, парыпваюць ад натугі касільны, звонка мянташацца косы. Сінявокія кветкі, падрэзаныя косамі, туляцца адна да другой і схіляюцца ў валкі. Зернем рассыпаюцца з-пад кос ва ўсе бакі табунчыкі вясёлых конікаў. Ззаду шморгае касою падлетак Пятрусь Качан. Яго стомлены твар блішчыць ад поту. Хлапец часта спыняецца, ляпае сухою мянташкаю па касе, але пацягнуць касу на ўвесь мах не можа — не хапае сілы. Да яго падыходзіць Якаў Пятровіч, старшыня калгаса. Ён бярэ з рук падлетка касу і, шырока расставіўшы ногі, лёгка і шпарка гоніць пракос. Перада мною махае касою Сымон Парахня, зухаваты хлапец. Крута разварочваецца яго грузная постаць. На загарэлай спіне Сымона ад натугі жаўлакамі варушацца пругкія цяглiцы, ходырам ходзяць лапаткі. Раскалмачылася і збілася на бок хлапцоўская чупрына, да цела прыліпла спатнелая майка.

— Г-г-эх! — раз-пораз выгуквае ад задавальнення Сымон і паварочвае да мяне свой потны, расчырванелы, як бурак, твар. — Не адставай, Мікола!

А над поплавам нясецца і нясецца чароўная музыка кос.

Спяшаюся, бо чыясьці каса пасвістае ўжо ля маіх пят. Свіст набліжаецца.

— Беражы пяты, студэнт! — раптам за спіною раздаецца голас старшыні.

Саступаю. Якаў Пятровіч вядзе далей мой пракос. Ссоўваю з патыліцы на лоб сваю паліняллую на сонцы шапку. Мне прыкра і сорамна — абагналі. Тым часам старшыня зганяе з пракосу грузнага ў плячах Сымона Парахню.

Зорыцца неба. Гусцее змрок. У паветры тонкім, празрыстым слупком таўчэцца машкара. За небасхіл марудна плывуць растрэпаныя хмаркі-кучомкі. З-за лесу выплыў медны чаўнок месяца. Мы насуха выціраем прывялым дзяцельнікам косы і, закінуўшы іх за плечы, крочым на груд у будан, у якім размяшчаюцца начаваць касцы і грабільніцы...

## У акопах растуць баравікі

Цёплая, парная раніца. Зямлі млосна ад цяпла і вільгаці. Са спацелых лісцяў дубоў марудна спаўзаюць кроплі расы, лапацяць па лапушыстаму арэшніку і разбіваюцца на пыл. Лёгкая павуціна туману заснавала кусты, распаўзлася між камлёў дрэў. На небе-моры застыў крыгаход растрэпаных хмарак. Сонца яшчэ не ўставала, а я з дзядзькам Антонам, маім суседам, ужо ў лесе. Учора, адразу пасля майго прыезду з горада, мы дамовіліся пайсці ў грыбы.

— Пойдзем у Галавеневы акопы. Там баравікоў — хоць касою касі, — параіў дзядзька, калі мы сышліся ў тонкім хвойніку.

З-за лесу выпнулася чырвонае сонца. На зямлю пырснулі праменні. Зоркамі замігцелі кропелькі расы. Мінуўся хвойнік. Вакол нас пачалі гуртавацца бярозкі. Пад імі чырванню сачыліся цыбатыя мухаморы.

А вось і Галавеневы акопы. Так называецца ўціснуты між двух балот верасовы груд. Тут у ваенныя гады трымалі бой з гітлераўцамі партызаны Цімоха Галавені, нашага аднавяскоўца. Абходзім зацярушаныя лісцем і засеяныя бярэзнікам акопы. Абваленыя з краёў, яны больш падобны на ямкі і ўпадзіны, якіх звычайна многа ў лесе.

Белымі постацямі бяроз пакрэслены цёмны фон бору. З бяроз сцярушваецца лісце, жоўценькімі матылькамі мітусіцца ў паветры і з ціхім шэптам сцелецца на зямлю.

— Мікола, хадзі пабач, колькі баравікоў знайшлося, — гукае дзядзька.

Падбягаю і не веру сваім вачам: у акопах, пад бярозкамі стаіць многагаловая сям'я баравікоў. Над імі, са смуглаю шапкаю-рэшатам, узвышаецца баравік-бацька.

Усюды з-пад зямлі ўпарта праразаецца яго маладое пакаленне. Пузаценькія, белабрысыя карпунцы нясмела вытыкаюцца з-пад лісця, вылузваюцца з пяску, вылазяць з моху. Ля струхнелага пня збіліся ў кучку больш сталыя. Адзін з іх упарта ўпёрся галавою пад корань пня, ад натугі расплюшчыўся і раздуўся. Нашы кошыкі напоўніліся тоўстакарэннымі баравікамі. Пругкія і цвёрдыя, як рэпа, яны зухавата ўляглiся ў кашы.

— Тут кожную восень баравікоў больш, чым трэба, — хваліўся сваім грыбовішчам дзядзька.

Сонечныя промні адбіваюцца беллю баравікоў з нашых кошыкаў, слепяць вочы.

Няхай заўсёды ў акопах растуць баравікі, — думаецца мне.

